РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 64 (7877) Заснавана ў красавіку 1931 года СУБОТА, 19 жніўня 2000 г. Цана 25 руб.

## ДОШКА ГОНАРУ

**На ўборцы збожжавых лепшых вынікаў па стану на 17 жніўня дабіваюцца:**

экіпаж у складзе **ГРАКАВЫХ Сяргея Аляксандравіча і Уладзіміра Аляксандравіча** з калгаса "Парыжская камуна", які намалаціў спачатку ўборкі 535 тон.

На другім месцы экіпаж з калгаса "Дуброва" у складзе **БАЛДУЕВА Вячаслава Віктаравіча і АРЛОВА Віктара Міхайлавіча**, які намалаціў 524 тоны збожжа.

463 тоны на рахунку экіпажа ў складзе **ЗАПЕКІНА Віктара Віктаравіча і ЮРКОВА Віктара Адамавіча** з калгаса "Дуброва".

**На перавозцы збожжа вызначаюцца:**

**БОНДАРАЎ Эдуард Мікалаевіч** з калгаса "Прагрэс", якім на аўтамашыне МАЗ перавёз з пачатку ўборкі 686 тон.

**ПАРШЫКАЎ Мікалай Сцяпанавіч** з калгаса "Радзіма" на аўтамашыне "ЗІЛ-130" перавёз 546 тон.

**На перапрацоўцы зерня лепшы вынік:**

у **МІХАЙЛАВА Аляксандра Васільевіча** з калгаса "Парыжская камуна", які на КЗС-20 перапрацаваў 1070 тон.

924 тоны перапрацаванага зерня на М-819 у **ЛЯОНАВА Івана Васільевіча** з калгаса "Дуброва".



Хто добра ведае, як вырошчваецца хлеб? Вядома ж, тыя людзі, якія працуюць на зямлі. Сяргей Трушчанка – хлопец вясковы. І калі ўладкоўваўся на працу ў свой калгас "Бароньki", добра ведаў, што хлеб вырошчваць нялёгка.

Сяргей займаецца рамонтам калгаснай тэхнікі. Ад якасці яго работы залежыць ураджайнасць. А калі не хапае механізатараў, напрыклад, у час пасяўной, Сяргей Трушчанка з задавальненнем садзіцца ў кабіну трактара.

Зараз самая адказная пара ў хлебаробаў. Сяргей Трушчанка своечасова паставіў на лінейку гатоўнасці свой камбайн "Дон-1500". А цяпер уключыўся ў работу па збору ўраджаю. . Сяргей Трушчанка разам з памочнікам Аляксандрам Гаваруновым трымаюць другое месца ў калгасе.

**На здымку: Сяргей ТРУШЧАНКА.**

## ВЫБАРЫ –2000

### Вылучаны кандыдатамі

На парадку дня сходу, на які ў раённым Доме культуры сабралася звыш 400 работнікаў райпа, стаяла адно пытанне: аб вылучэнні кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па Касцюковіцкай выбарчай акрузе №68.

Вёў сход намеснік старшыні райпа па кадрах У. Ф. Іванішчанка

Было прапанавана вылучыць кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Валянціна Раманавіча Сімірскага, які працуе памочнікам намесніка старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Адбылося галасаванне. Пры адным голасе "супраць" і адным –"устрымаўся" В. Р. Сімірскі быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па Касцюковіцкай выбарчай акрузе №68 ад калектыву райпа.

ХХХ

На канферэнцыі медыцынскіх работнікаў Клімавіцкага раёна вылучаны кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па Касцюковіцкай выбарчай акрузе №68 Уладзімір Васільевіч Мартыноўскі, які працуе начальнікам упраўлення аховы здароўя Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэта.

**Ул. інф.**

## ЗАДАЧЫ ДНЯ: УБІРАЦЬ І СЕЯЦЬ

У райвыканкаме адбылася аператыўная вытворчая нарада, куды былі запрошаны кіраўнікі калгасаў, нарыхтоўчых прадпрыемстваў, абслугоўваючых сельскую гаспадарку арганізацый, спецыялісты райсельгасхарчу. Разгледаліся задачы па правядзенню ўборачных і іншых палявых работ.

Як адзначыў, адкрываючы нараду, старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў, чамусьці знізіліся тэмпы ўборкі збожжавых культур. Паменшылася і ўраджайнасць. Напрыклад, у калгасе імя Карла Маркса яна склала ўсяго 13 цэнтнераў збожжа з гектара. Калгасы "Расія", "Новы быт", імя Калініна збіраюць па 15 цэнтнераў. Таму былі заслуханы тлумачэнні кіраўнікоў гаспадарак Івана Агеева,Віталя Шышова, Людмілы Пратасавай, выконваючага абавязкі старшыні Радзіка Алісултанава. Яны не выканалі распараджэння аб тым, што нізкаўраджайныя ўчасткі трэба было перавесці з зерневай у кармавую групу і ўбраць на зернесенаж.

За невысокі ўраджай пшаніцы крытыкаваўся калгас "Ленінскі шлях". Атрымана яе па 11,9 цэнтнера з гектара. Да таго ж, у гаспадарцы ляжыць падоўгу незаскіртаваная салома. Старшыня калгаса Мікалай Таўпека запэўніў кіраўніцтва раёна, што неадкладна палепшыць уборку гэтага грубага корму.

Зусім незразумелыя адносіны некаторых гаспадарнікаў да выканання дзяржзаказу на закуп збожжа. Нават напалавіну не выканаы яшчэ дагаворы з нарыхтоўшчыкамі калгасамі імя Калініна, "Праўда", "Кранштат", "Расія", "Новы быт", "Ленінскі шлях", "Дуброва". Патрабавана, каб калгасы актывізавалі рэалізацыю зерня. Прычым, трэба выканаць заказ па культурах.

Востра было пастаўлена пытанне аб пагашэнні запазычанасці па выплаце зарплаты калгаснікам. У тым, што яна несвоечасова выдаецца, ёсць значная віна саміх кіраўнікоў калгасаў, якія не імкнуцца знайсці шляхі атрымання грашовых даходаў і разлікаў з працаўнікамі. Старшыня райвыканкама ў адпаведнасці з указаннямі Прэзідэнта краіны патрабаваў, каб аператыўна была арганізавана выплата заробкаў сельскім працаўнікам.

Выказвалася незадаволенасць і заклапочанасць у сувязі з марудным ходам уборкі кукурузы на сілас. Падрабязна аб арганізацыі гэтай работы, яе выніках далажыў першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Віталь Грышанаў. Ён сказаў, у прыватнасці, што горш за ўсіх працуе механізаваны кормаўборачны атрад, які створаны на базе ПМК-90. Кіраўнік арганізацыі меліяратараў Анатоль Кузняцоў, даючы тлумачэнні, заўважыў, што яго падводзяць некаторыя кіраўнікі гаспадарак. Так, калгасы "Расія", "Новае жыццё" не паставілі ў атрад неабходную тэхніку. Дзесьці яна няспраўная, або проста занятая на іншых работах. Старшыням калгасаў загадана тэрмінова адравіць "КСК-100", трактары ў мехатрад і забяспечыць іх бесперабойную работу.

Падобныя факты, на жаль, не выключэнне. У атрад ПМС упарта не выдзяляе самаходны кормаўборачны комплекс калгас "Кранштат". Дрэнна працуе ў калгасе "Бароньki" механізаваны атрад ААТ "Касцюковіцкае райаграпрамтэхэнерга". Калгас "Праўда" прытармазіў" здрабняльнік кукурузы, прызначаны ў склад атрада. Не накіравана сюды некалькі транспартных адзінак для адвозкі сіласнай масы. Ёсць выпадкі, калі дарэмна губляецца рабочы час механізатарамі па розных прычынах.

З усіх гаспадарак здавальняюча была наладжана ўборка кукурузы ў калгасе "Новы быт". Нядрэнна вядзе яе і акцыянернае таварыства райсельгасхіміі. У цэлым жа па раёну штодзённа нарыхтоўваецца не больш як па 500 тон сіласу. Прыбаўка запасаў кармоў складае 0,1 кармавой адзінкі. Калі мець на ўвазе, што ёсць магчымасць закласці не менш, чым 50 тысяч тон гэтага корму, няцяжка зрабіць вывады. Спазненне відавочнае, і ўзмацніць уборку важнай кармавой культуры – вельмі актуальная задача.

Звярталася ўвага аграрнікаў і на такі напрамак работы, як стварэнне асновы будучага ўраджаю. Летась у гэтыя жнівеньскія дні ў раёне ўжо ішла сяўба азімых культур. Зараз жа яна яшчэ не разгорнута. Вельмі слаба вядзецца ворыва глебы ў большасці гаспадарак. Па раёну ўзарана нямногім больш за 1 тысячу гектараў. Трэба заняцца апрацоўкай зямлі як належыць.

Адначасова неабходна прыступіць у гэтыя дні да сяўбы азімых. Такая каманда гаспадарчым кіраўнікам была дадзена і выкананне яе строга кантралюецца.

На нарадзе з інфармацыяй аб выніках праверак калгасаў, дакладней, захаванасці збожжа выступіў начальнік аддзела ўнутраных спраў Яўген Кастроў. Выяўлены выпадкі крадзяжу зерня, неабходна палепшыць яго ахову. Кіраўнікі калгасаў былі папярэджаны аб недапушчэнні безгаспадарчасці. У адваротным выпадку будуць прыцягнуты да адказнасці.

Завяршаючы нараду, М. Р. Барысаў даў гаспадарнікам канкрэтныя ўказанні па правядзенню палявых работ, у тым ліку азімай сяўбы, і вызначыў тэрміны выканання.

## Звесткі

**аб уборцы збожжавых у калгасах раёна па стану на 17 жніўня г.г.**

**Першая калонка – назвы гаспадарак, другая – убрана збожжавых (у працэнтах да плана), трэцяя – ураджайнасць (цнт. /га)**

| | | |
|---|---|---|
| "Дуброва" | 95,7 | 24,9 |
| "Прагрэс" | 85,1 | 19,4 |
| "Радзіма" | 78,6 | 21,1 |
| "Лен. шлях" | 72,3 | 16,6 |
| "Пар. камуна" | 68,2 | 22,6 |
| "Новы быт" | 67,7 | 15,2 |
| "Расія" | 59,2 | 14,6 |
| "Забычанне" | 55,3 | 16,4 |
| "Новае жыццё" | 54,2 | 22,8 |
| "Смолькі" | 52,7 | 16,6 |
| імя К. Маркса | 50,6 | 13,8 |
| "Праўда" | 45,2 | 15,3 |
| "Кранштат" | 40,2 | 17,7 |
| "Бароньki" | 39,3 | 16,0 |
| імя Калініна | 35,3 | 15,3 |
| **ПА РАЁНУ:** | **61,0** | **18,7** |

*Інтэрв'ю*

## Закладваецца кукурузны сілас

**Сёння ў калгасах раёна паралельна з жнівом ідзе ўборка кукурузы на сілас. На палях працуюць 5 міжгаспадарчых механізаваных атрадаў, створаных для нарыхтоўкі кармоў. У гэтыя фарміраванні ўключаны механізатары і машыны калгасаў, абслугоўваючых сельскую гаспадарку арганізацый, шэрагу іншых працоўных калектываў горада. Як паказвае практыка, аб'яднанне намаганняў для закладкі сакавітага корму дае станоўчыя вынікі.**

**Наша гутарка з начальнікам аднаго з лепшых мехатрадаў, дырэктарам прадпрыемства меліярацыйных сістэм Пятром Білань.**

**— Пётр Аляксандравіч, пачнем з тэхнічнай аснашчанасці вашага падраздзялення...**

— На ўзбраенні механізаванага атрада чатыры самаходных кормаўборачныя комплексы (КСК-100). Два з іх належыць калгасу "Ленінскі шлях", астатнія – "Парыжскай камуне" і "Забычанне". Асабіста я выдзеліў 10 транспартных адзінак, у асноўным трактароў, для адвозкі зялёнай масы. Неабходную тэхніку далі Беларускі цэментны завод, будаўнічы трэст № 10, ДБУ-130. Усяго на перавозцы корму занята каля 20 транспартных сродкаў.

Лічу, што гэта вялікая сіла, можна справіцца з вызначаным аб'ёмам работ. Безумоўна, пры сумленных адносінах кожнага работніка да сваіх абавязкаў. Аднак, на жаль, ёсць і нязвязкі. Так, дагэтуль не прыслалі у атрад людзей і тэхніку калгас "Кранштат". Хаця згодна з дамоўленасцю паміж кіраўнікамі гаспадарак і патрабаваннем райсельгасхарчу, праўленне павінна было гэта зрабіць. Відаць, штосьці здарылася з працоўнай дысцыплінай механізатараў гэтага калгаса. А кукурузу ж тут усё роўна трэба скасіць.

**— Скажыце, калі ласка, як арганізавана ўборка кукурузы і нарыхтоўка сіласу?**

— Працоўны дзень у нас пачынаецца з 7 гадзін раніцы і заканчваецца ў 9 вечара. Тэхніка размяркоўваецца па адпаведных участках: КСК-100 з кукурузнымі жняяркамі накіроўваюцца на поле, дзе трэба касіць і здрабняць, сюды даецца транспарт для перавозкі нарыхтаванай зялёнай масы. У сховішчы кругласутачна працуюць энерганасычаныя трактары на трамбоўцы яе.

**— Ваша меркаванне аб выкарыстанні тэхнікі, прадукцыйнасці працы.**

— Здаецца, усё робіцца для таго, каб кожная машына давала добрую аддачу. У цэлым атрад не губляе марна часу, даражыць ім, стараецца кожны дзень зрабіць як мага больш. Наладжана тэхабслугоўванне агрэгатаў. Аператыўна, па магчымасці, ухіляюцца ўзнікаючыя непаладкі і няспраўнасці.

Людзі дастаўляюцца на работу арганізавана, на аўтобусе. Наладжана двухразовае харчаванне працоўных.

**--Каго з найбольш старанных механізатараў вы назвалі б?**

— Высокай выпрацоўкі дабіваюцца пастаянна працоўныя на кормаўборачных комплексах механізатары калгасаў "Парыжская камуна" Уладзімір Рываненка, "Забычанне" – Віктар Азараў, "Ленінскі шлях" – Генадзь Другакоў, Іван Мосьпін. Вызначаюцца транспартнікі Мікалай Чаркасаў, Андрэй Галонаў, Валянцін Фёдарчанка і іншыя. Прыемна, што сярод найбольш актыўных – людзі з калектыву ПМС.

**— Як будзе аплачвацца праца членаў мехатрада?**

— Зарплата работнікам налічваецца ў адпаведнасці з існуючымі нормамі і расцэнкамі ў тых гаспадарках, дзе людзі заняты. Вядзецца ўлік выкананых работ. Вось толькі невядома, як будуць праводзіць разлікі паміж сабой калгасы, што атрымае наша прадпрыемства, за выкарыстанне тэхнікі.

**— І нарэшце, што ўдалося зрабіць атраду з дня яго ўключэння?**

— Сфарміраваны механізаваны атрад спачатку прыступіў да ўборкі кукурузы і іншых кармавых культур у калгасе "Ленінскі шлях". Заняты тут ён быў амаль да 17 жніўня. Ураджайнасць кукурузы не высокая. У той жа час атрад нарыхтаваў і заклаў у сховішчы амаль 2 тысячы тон сіласу.

Пасля завяршэння касавіцы ў гэтай гаспадарцы плануем пераехаць у калгас "Забычанне". Справімся там – будзем рухацца далей.

**— Аказваючы шэфскую дапамогу сялу, вы, натуральна, не забываеце пра свае вытворчыя аб'екты. Як там ідуць справы?**

— Зараз поўным ходам ідзе абкошванне меліярацыйных каналаў на асушаных землях. Пры плане 450 гектараў догляд праведзены ўжо на 300 гектарах. Заняты некалькі трактароў з спецыяльнымі касілкамі "К-78". І тут, як заўжды, нас не падводзіць Леанід Мікалаевіч Івачкін. Яму і іншым працаўнікам шчыры дзякуй.

Увогуле ж нас хвалюе праблема недастатковасці фінансавання. На рамонтна-эксплуатацыйныя работы выдзелена ўсяго 4 мільёны рублёў бюджэтных сродкаў. Трэба ж значна больш. Працягласць водаадводных каналаў 800 кіламетраў, і яны патрабуюць догляду. У такой сітуацыі прастоі тэхнікі непазбежныя. Таму мы ахвотна дапамагаем калгасам.

**— Дзякуй вам за інфармацыю. Новых поспехаў.**

**Інтэрв'ю ўзяў Мікалай ДЗЯТЛАЎ.**

## Чалавек і яго справа



Пасля заканчэння Аршанскага медвучылішча Галіну Навуменка накіравалі працаваць у вёску Бялынкавічы. Там яна вяла тэрапеўтычны і хірургічны прыём хворых. Пацыенты заўсёды былі задаволены работай маладога спецыяліста. А праз некаторы час Галіне прапанавалі работу ў стаматалагічнай паліклініцы горада. Згадзілася з задавальненнем, бо жыла з сям'ёй у горадзе і ездзіць у вёску не надта зручна было. Працуючы ў стаматалагічнай паліклініцы, маладая жанчына хутка заваявала аўтарытэт сярод пацыентаў і, вядома ж, сярод сваіго калектыву. Яе паважаюць не толькі як добрага, чулага чалавека, а і як кампетэнтнага работніка. Галіна заўсёды з адказнасцю ставіцца да сваіх абавязкаў. Яна вядзе тэрапеўтычны прыём хворых. І, як пераканаліся многія, не толькі добра лечыць зубы. У гэтага спецыяліста заўсёды знойдзецца хвілінка пацікавіцца наогул здароўем хворага, даць яму неабходную параду. Яна тактычна выслухае кожнага, падтрымае чулым словам. Нягледзячы на тое, што прыходзіцца штодзённа прымаць мноства пацыентаў, Навуменка нікому не адмовіла, усім аказвае дапамогу.

Больш дзесяці гадоў аддае гэтай справе малады спецыяліст. За гэты час толькі падзякі выслухоўвае ў свой адрас ад пацыентаў. Гэта доказ таго, што Галіна не памылілася, калі выбірала свой працоўны шлях.

**На здымку: Галіна НАВУМЕНКА.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

# Осторожно, фальшивка!

В последнее время очень часто в обращении стали появляться фальшивые купюры достоинством 1 и 5 тысяч рублей Национального банка Республики Беларусь. В основном в обиходе идет расчет 5-тысячными купюрами с серийным номером АК № 9301305 1999 года выпуска. Кроме этого, имеют место факты обнаружения фальшивых купюр достоинством 1000 рублей Нацбанка РБ с серийным номером ЧА № 6598768, 2000 года выпуска.

На этих купюрах отсутствует защитная нить, водяной знак расплывчатый, рисованный. Бумага не соответствует стандарту.

Как правило, эти купюры фальшивомонетчики пытаются сбыть на рынках, у частных предпринимателей, а также в магазинах, покупая что-то незначительное, только бы разменять крупную купюру.

Иногда сбытчики могут сбывать поддельные деньги путем їх размена у частных лиц.

Встречаются поддельные купюры не только национального производства, но и иностранного – доллары, марки. Их фальшивомонетчики сбывают только на рынках, у предпринимателей. И те, как правило, не сообщают в милицию о подделке, так как боятся наказания за нарушение Декрета № 1 Президента РБ, чем затрудняют работу милиции по раскрытию тех лиц, кто пытается сбыть фальшивки.

1 июня этого года в одиннадцатом часу на рынке нашего города граждане В. и С. пытались сбыть поддельных 300 долларов США. Благодаря бдительности граждан, данная операция у фальшивомонетчиков не получилась и они попытались скрыться из города.

По телефону сотрудникам группы экономических преступлений были сообщены приметы сбытчиков, на каком транспорте они передвигаются.

Оперативная группа РОВД выбыла на место. Сотрудники группы ЭП и уголовного розыска установили, в каком направлении уехали эти люди. В тот же час были предупреждены соседние районные отделы милиции. Вскоре с Хотимского РОВД поступило сообщение, что фальшивомонетчики задержаны. Наши работники выехали для расследования этого дела.

Так, благодаря внимательности граждан, оперативных действий сотрудников РОВД, в карманы наших жителей не попали фальшивые доллары.

Чтобы избежать подобных казусов, хотелось бы напомнить жителям города, гостям, что валюту можно купить в банках города, обменных пунктах, как национальную, так и иностранную. Это гарант того, что вам не подсунут фальшивые купюры и вы не пострадаете за нарушение Декрета № 1 о валютных операциях.

Работникам торговли, а также организациям и предприятиям, которые работают с наличными деньгами, необходимо напомнить, чтобы были более бдительными. И если вдруг у вас в руках окажутся поддельные купюры, не нужно паниковать, поднимать шум. Лучше запомните того гражданина, его приметы. Как можно больше тяните время с ним и по возможности попытайтесь сообщить в отдел милиции по телефону 02 или службу ЭП – 2-11-59. Если не удастся задержать данного гражданина, то сохраните купюру, которая может помочь в раскрытии преступления.

Напоминаем, что за сбыт, хранение и изготовление фальшивых денег, находящихся в обращении на территории РБ, монет, государственных или иных ценных бумаг или иностранной валюты и ценных бумаг в иностранной валюте, предусмотрено наказание в виде лишения свободы от 2 до 7 лет с конфискацией имущества. Те же действия, совершенные повторно, либо группой лиц, наказываются сроком от 5 до 15 лет с конфискацией имущества. Ст. 84 УК РБ.

Меняйте деньги в банках и обменных пунктах и вы будете защищены от подделок.

***Владимир КОМПАЛЬ,***
**старший оперуполномоченный группы экономических преступлений РОВД, капитан милиции.**

## ПІШАМ ГІСТОРЫЮ КРАЮ

# Касцюкоўшчына на рубяжы XVIII-XIX стагоддзяў

**(Працяг. Пачатак у №№ 57, 59, 61).**

Сістэма асветы ў гэты час была прадстаўлена пачатковымі вучылішчамі, царкоўнапрыходскімі школамі і школамі граматы. Адкрыццё і дзейнасць першых школ на Касцюкоўшчыне звязана з імем надворнага саветніка Уладзіміра Цеханавецкага. Дзякуючы яго стараннасці ў 1825 г. у мяст. Касцюковічы было адкрыта першае павятовае вучылішча і ў 1827 г. прыходскае мужчынскае аднакласнае вучылішча. У павятовым цэнтры 31 сакавіка 1834 г. чыноўнікі і жыхары склалі акт аб заснаванні ў г. Клімавічы прыходскага вучылішча і зборы ахвяраванняў на яго адкрыццё і утрыманне. Адкрыта вучылішча было ў 1838 г. Павятовае вучылішча ў 1837 г. было пераўтворана ў трохкласнае дваранскае. Там вучыўся Дзмітрый Афанасавіч Бонч-Бруевіч – бацька У. Дз. Бонч-Бруевіча.

У ліку першых школ на Касцюкоўшчыне адкрыты пансіён для дзяўчынак у Касцюковічах у 1845 г., Машаўскае народнае вучылішча ў 1864 г. і царкоўнапрыходскія вучылішчы – Барэйкаўскае ў 1880 г., Муравільскае ў 1885 і Гаўрыленскае ў 1886 г.

Студзянецкае народнае вучылішча адкрыта ў 1864 г. Размяшчалася ў грамадскім доме пры валасным праўленні. На ўтрыманне вучылішча штогод адпускалася 75 руб. з дзяржаўнага казначэйства і 100 руб. ад мясцовага сялянскага таварыства. Настаўнік вучылішча Іван Аляксеевіч Барцэвіч выхоўваўся ў Магілёўскай духоўнай семінарыі. Законавучыцель – святар Сімяон Паўлавіч Варашкевіч.

Саматэвіцкае народнае вучылішча адкрыта ў 1864 г. Размяшчалася ў грамадскім доме. На ўтрыманне вучылішча штогод адпускалася 100 руб. з дзяржаўнага казначэйства, 50 руб. — ад землеўладальніка Дзмітрыя Станіслававіча Галынскага і 69 руб. 62 кап.— ад мясцовага сялянства. Настаўніца вучылішча – Еўдакія Дармедонтаўна Даўгапохава. Законавучыцель – Якаў Пятровіч Рыжкоў.

Брацькавіцкае народнае вучылішча адкрыта ў 1867 г. Размяшчалася ў грамадскім доме. На ўтрыманне вучылішча штогод адпускалася 75 руб. з дзяржаўнага казначэйства і 132 руб.— ад мясцовага сялянства. Настаўнік вучылішча Андрэй Леанардавіч Глінскі закончыў курс Магілёўскай духоўнай семінарыі. Законавучыцель — Парфеній Паўлавіч Заркевіч.

У справаздачы аб царкоўнапрыходскіх школах Магілёўскай епархіі за 1888/89 навучальны год утрымліваюцца наступныя звесткі.

Школы-граматы Саматэвіцкага прыхода:

у в. Зялёнкавічы школа размяшчалася ў сялянскай хаце бясплатна, настаўнік Марк Пятроў, у в. Кісялёўка – прыстасаваным для яе доме, настаўнік унтэр-афіцэр Дзям'ян Ляонаў. У в. Папаратнае школа размяшчалася ў наёмным доме, настаўнік Назар Пілілаў, у в. Вусаўскі Прудок – у прыстасаваным для яе доме, настаўнік селянін Васіль Стасаў, у в. Хоцімск – у збудаваным для яе доме, настаўнік селянін Піліп Цярэнцьеў.

Школа-грамата Брацькавіцкага прыхода ў в. Калодзецкая размяшчалася ў сялянскім доме, настаўнікам быў сын прычотніка Іван Слайчэўскі.

Пераўтвораная царкоўнапрыходская школа Беладубраўскага прыхода ў с. Белая Дуброва размяшчалася ў збудаваным для яе доме, настаўнічала Палагея Горбік, законавучыцель – Міхаіл Палікарповіч.

У драўляным будынку па Муравільскай вуліцы размяшчаўся прыватны жаночы пансіён, начальніцай якога была Кіслоўская. У гэтым пансіёне навучаліся дзеці багатых.

У 1908 г. замест народнага вучылішча было адкрыта чатырохкласнае гарадское вучылішча, інспектарам якога стаў Сцяпан Аляксеевіч Мелехаў, надзвычай строгі і дзелавы чалавек. Каб паступіць туды, неабходна было закончыць прыходскую школу і вытрымаць іспыты ў першы клас гэтага вучылішча. У 1913 г. яго пераўтварылі ў вышэйшае пачатковае.

У справаздачы папячыцеля Віленскай вучэбнай акругі за 1909 г. утрымліваюцца наступныя даныя. У Бялынкавіцкай, Касцюковіцкай і Машаўскай валасцях было 140 населеных пунктаў і 14 школ, падведамасных Міністэрству народнай асветы. У сярэднім адна школа і адзін настаўнік на 10 населеных пунктаў. Навучалася ў свецкіх школах з 3166 дзяцей ва ўзросце 8-11 гадоў толькі 725. На кожнага настаўніка прыпадала ў сярэднім па 52 вучні. У Малой Валаськоўні ў земскай школе адзін настаўнік навучаў 70 вучняў, у в. Вішні на аднаго настаўніка прыходзілася 73 вучні, у школе в. Панькаўская Буда Машаўскай валасці на аднаго настаўніка прыпадала 70 вучняў.

Горшае становішча было ў Бялынкавіцкай валасці, дзе на 39 населеных пунктаў было 2 школы, падведамасныя дзяржаўнай дырэкцыі народных вучылішчаў, 2 настаўнікі і 102 вучні з 945 дзяцей ва ўзросце 8-11 гадоў. Згодна з архіўнымі матэрыяламі за 1888/89 навучальны год, у в. Студзянец працавала царкоўнапрыходская школа з трохгадовым тэрмінам навучання. Настаўнікам тут быў селянін Мяфодзій Раманаў. Ён закончыў курс народнага вучылішча і вытрымаў іспыты на званне настаўніка. Ён атрымліваў ад грамадства 80 руб. і ад епархіяльнага вучылішчнага савета 60 руб. у год. Школу наведвала 67 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі.

**Віктар БОНДАРАЎ.**
**(Працяг будзе).**

## Школьныя канікулы

# Госці з сонечнай Італіі

У пачатку лета дзіцячую бібліятэку наведала італьянская сям'я -- спадарыня Розанджела Крана і яе муж Джуліо Крана з правінцыі Каварра. Мэта іх візіту – даведацца, як жыве і праводзіць свой вольны час вучань 8 "А" класа СШ № 2 Коля Асмалоўскі. Хлопчык двойчы адпраўляўся ў далёкае падарожжа ў краіну, дзе шмат сонца, дзе гасцінна сустракаюць яго сябры, чулыя людзі, спачуваючы чарнобыльскай бядзе. Колькі добрых слоў Коля гаворыць у адрас гэтай італьянскай сям'і і ўмовах адпачынку!

У час наведвання бібліятэкі госці прысутнічалі на лялечным прадстаўленні казкі "Непаслухмяная Насця", дзе ролю хітрай і кемлівай Лісічкі выконваў Коля Асмалоўскі. Тэкст казкі быў зразумелы гасцям пры дапамозе перакладчыцы. Бібліятэкары ў сваю чаргу падрыхтавалі кніжную выставу італьянскіх пісьменнікаў і паэтаў, дзе адбылася гутарка-агляд. Госці ў падарунак атрымалі ад юных чытачоў сувенір з саломкі.

І вось днямі бібліятэка атрымала ад гасцей руска-італьянскі слоўнік, якога, дарэчы, не было ў фондзе бібліятэкі, і некалькі набораў канцылярскіх прылад, фотаздымак на добрую памяць. Дружба працягваецца.

**Марыя ПУЦЯТА,**
**загадчыца аддзела абслугоўвання дзіцячай бібліятэкі.**



**На здымку: у час сустрэчы з удзельнікамі лялечнага гуртка.**

# ПРОГРАММА ТЕЛЕВИДЕНИЯ

## ПОНЕДЕЛЬНИК, 21 августа

**БТ**

15.59 «Четыре танкиста и собака». Телесериал.
17.00 Новости.
17.10 Столица.
17.40 Авто-парк.
17.50 Премьера песни.
18.00 Сериал «Сити».
18.44 МСН.
19.00 Новости.
19.15 Политические диалоги.
19.50 «Все мои дети».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Комедия «Ягуар».
23.25 Третий тайм.
23.55 Новости.
0.05 Криминальная хроника.

**ОРТ**

15.55 «Вавилонская башня».
17.00 Новости.
17.30 Клуб «Белый попугай».
18.20 Худ. фильм «Ко мне, Мухтар!».
20.00 Время.
20.45 «Тысячелетие».
21.40 «Чайф-Ф. 15 лет. Все только начинается».
23.15 Новости.
23.30 «Майк Хаммер. Горячий лед».
0.30 «Паранормальные явления. Закрытое досье».

**РТР**

16.00, 19.00 Вести.
16.30 «Сам себе режиссер».
17.00 «Графиня де Монсоро».
18.00 «Комиссар Рекс».
19.30 Дежурная часть.
19.50 «История любви».
22.00 «Следствие ведут знатоки».
23.40 Формула скорости.

## ВТОРНИК, 22 августа

**БТ**

6.30 Доброе утро, Беларусь!
7.00 Новости.
7.10 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Резонанс.
9.00 Новости.
9.10 Потребительская корзина.
9.25 «Сегодня с вами...»
9.50 Здоровье. Тележурнал.
10.15 «Все мои дети».
11.00 Новости.
11.10 «Все мои дети».
11.55 «Одиссея команды Кухто». Телеигра.
12.25 Третий тайм.
13.00, 15.00 Новости.
15.15 «Четыре танкиста и собака».
16.10 Мультфильм.
17.00 Новости.
17.10 «А музыка звучит...»
17.40 Путь без следов. «Наркомания и СПИД».
18.00 Сериал «Сити».
18.44 МСН.
19.00 Новости.
19.15 Ток-шоу «Будни».
20.00 «Все мои дети».
20.47 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Драма В.Рыбарева «Меня зовут Арлекино».
0.00 Музыкальный салон.
0.30 Новости.
0.40 Криминальная хроника.

**ОРТ**

13.30 «Вместе».
14.00, 17.00, 22.25 Новости.
14.20 Мультсериал.
14.45 Царь горы.
15.10 ...До шестнадцати и старше.
15.45 Вкусные истории.
15.55 «Вавилонская башня».
17.25 Последние дети тайги.
17.40 Комедия «Раз на раз не приходится».
19.15 Жди меня.
20.00 Время.
20.45 «Полная безопасность».
21.40 Док. детектив. «Бриллианты графа Толстого. Французский след». Дело 1980 года.
22.40 «Посмотри».
23.10 «К востоку от рая».

**РТР**

7.00, 8.00 Вести.
7.30 Семейные новости.
7.40, 8.20 Доброе утро, Россия.
8.15 Черным по белому.
8.35 Мультсериал.
9.00 «Мануэла».
10.00, 13.00, 16.00, 19.00 Вести.
10.35 «Санта-Барбара».
16.30 «Сам себе режиссер».
17.00 «Графиня де Монсоро».
18.00 «Комиссар Рекс».
19.30 Дежурная часть.
19.50 «История любви».
22.00 «Следствие ведут знатоки».
23.55 Худ. фильм «Мисима — жизнь в четырех главах».

**«МОГИЛЕВ-1» на БТ**

13.10 Спортивная программа.
14.50 Мультфильм.

## СРЕДА, 23 августа

**БТ**

6.30 Доброе утро, Беларусь!
7.00 Новости.
7.10 Доброе утро, Беларусь!
8.15 «Сегодня с вами...»
8.40 Потребительская корзина.
9.00 Новости.
9.10 Компьютерный полигон.
9.30 Музыка без границ.
10.00 Мультфильм.
10.10 «На волне взаимопонимания».
11.00 Новости.
11.15 «Все мои дети».
12.00 Ток-шоу «Будни».
12.45 Фильмы братьев Люмьер.
13.00 Новости.
14.25 Ток-шоу «Карамболь».
15.00 Новости.
15.13 «Четыре танкиста и собака».
16.05 Мультфильм.
16.15 Творцы. Памяти композитора Г.Вагнера.
17.00 Новости.
17.10 «Макаенка,9».
17.40 Путь без следов. «Наркомания и СПИД».
18.00 Сериал «Сити».
18.44 МСН.
19.00 Новости.
19.15 Лотерея «Толока».
19.25 Док. фильм. «Автопортреты». «Михаил Савицкий».
19.50 «Все мои дети».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Боевик. «Одиночное плавание».
23.25 Королевская охота.
23.55 Новости.
0.05 Криминальная хроника.

**ОРТ**

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.25 Новости.
8.20 «Вавилонская башня».
9.20 Здоровье.
9.50 Жди меня.
10.35 «Песня года».
11.15 «Добрый день».
13.30 «Вместе».
14.20 Мультсериал.
14.45 Зов джунглей.
15.10 ...До шестнадцати и старше.
15.45 Вкусные истории.
15.55 «Вавилонская башня».
17.35 Комедия ужасов «Роковые яйца».
20.00 Время.
20.45 «Полная безопасность».
21.40 Как это было.
22.40 «Цивилизация».
23.10 «К востоку от рая» (закл. серия).

**РТР**

7.00, 8.00 Вести.
7.30 Семейные новости.
7.40, 8.20 Доброе утро, Россия.
8.15 Черным по белому.
8.35 Мультсериал.
9.00 «Мануэла».
10.00, 13.00, 16.00, 19.00 Вести.
10.35 «Санта-Барбара».
16.30 «Сам себе режиссер».
17.00 «Графиня де Монсоро».
18.00 «Комиссар Рекс».
19.30 Дежурная часть.
19.50 «История любви».
22.00 «Следствие ведут знатоки».
23.45 Выборгский фестиваль российского кино «Окно в Европу-2000».

**«МОГИЛЕВ-1» на БТ**

13.15 «Могилевщина православная».
13.35 Видеодром.
13.55 Бобруйский вариант.
14.15 Мультфильм.

## ЧЕТВЕРГ, 24 августа

**БТ**

6.30 Доброе утро, Беларусь!
7.00 Новости.
7.10 Доброе утро, Беларусь!
8.15 Сельчане.
8.40 Потребительская корзина.
9.00 Новости.
9.10 Королевская охота.
9.40 Мультфильм.
9.55 «Бременские музыканты». Спектакль.
11.00 Новости.
11.15 «Все мои дети».
12.00 Док. фильм. «Автопортреты». «Михаил Савицкий».
12.25 Мультфильм.
12.35 Наш край.
13.00 Новости.
13.10 Героико-приключенческий фильм «Красные дипкурьеры».
14.45 Фильмы братьев Люмьер.
15.00 Новости.
15.10 «Четыре танкиста и собака». Закл. серия.
16.15 Мультфильм.
16.25 «А музыка звучит...»
17.00 Новости.
17.10 Арсенал.
17.35 Усадьба.
18.00 Сериал «Сити».
18.44 МСН.
19.00 Новости.
19.20 «Премьер-парад».
19.50 «Все мои дети».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Футбол. Кубок УЕФА. «Гомель» — «АИК» (Стокгольм).
23.40 Новости.
23.50 Криминальная хроника.

**ОРТ**

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.10 Новости.
8.20 «Вавилонская башня».
9.20 Смехопанорама.
9.50 Человек и закон.
10.30 «Песня года».
13.30 «Вместе».
14.20 Мультсериал.
14.45 «100%».
15.10 ...До шестнадцати и старше.
15.45 Вкусные истории.
15.55 «Вавилонская башня».
17.30 «Каламбур».
18.05 Боевик «Новые центурионы».
20.00 Время.
20.45 Комедия «Мимино».
22.35 «Жизнь замечательных людей».
23.25 Худ. фильм «Бегство Эдди Макона».

**РТР**

7.00, 8.00 Вести.
7.30 Семейные новости.
7.40, 8.20 Доброе утро, Россия.
8.15 Черным по белому.
8.35 Мультсериал.
9.00 «Мануэла».
10.00, 16.00, 19.00 Вести.
10.35 «Санта-Барбара».
16.30 «Сам себе режиссер».
17.00 «Графиня де Монсоро».
18.00 «Комиссар Рекс».
19.30 Дежурная часть.
19.50 «История любви».
22.00 «Следствие ведут знатоки».
0.00 Худ. фильм «На карту поставлено все».

## ПЯТНИЦА, 25 августа

**БТ**

6.30 Доброе утро, Беларусь!
7.00 Новости.
7.10 Доброе утро, Беларусь!
8.10 Столица.
8.40 Потребительская корзина.
9.00 Новости.
9.10 Мультиклуб.
9.40 «Летние забавы».
10.00 Телевизионный Дом кино.
10.30 Зорная ростань.
11.00 Новости.
11.10 «Все мои дети».
11.55 Мультфильм.
12.05 «Премьер-парад».
12.30 Усадьба.
13.00 Новости.
13.15 Земляки.
14.15 Фильмы братьев Люмьер.
15.00 Новости.
15.10 «Остров сокровищ. Карта капитана Флинта». Мультфильм.
16.00 Регион.
16.25 «Риск-версия».
17.00 Новости.
17.15 Марсово поле.
17.35 Наш край.
18.00 Сериал «Сити».
18.44 МСН.
19.00 Новости.
19.20 Бездельник.
19.50 «Все мои дети».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Драма. «Время танцора».
0.30 Новости.
0.40 Криминальная хроника.

**ОРТ**

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.45 Новости.
8.20 «Вавилонская башня».
9.20 «Женские истории».
9.50 Клуб «Белый попугай».
10.35 «Песня года».
11.15 «Добрый день».
13.30 «Вместе».
14.20 Худ. фильм «Бэнджи».
15.45 Вкусные истории.
15.55 «Вавилонская башня».
17.30 Джентльмен-шоу.
18.05 Человек и закон.
18.55 Поле чудес.
20.00 Время.
20.45 Детектив «Шерстяная гадюка».
21.50 Хоккей. Сборная звезд России — сборная мира.
0.35 Худ. фильм «Заговор против Гитлера».

**РТР**

7.00, 8.00 Вести.
7.30 Семейные новости.
7.40, 8.20 Доброе утро, Россия.
8.15 Черным по белому.
8.35 Мультсериал.
9.00 «Мануэла».
10.00, 16.00, 19.00 Вести.
10.35 «Санта-Барбара».
16.30 «Сам себе режиссер».
17.00 «Графиня де Монсоро».
18.00 Сам себе режиссер.
18.25 «Круглая дата». Георгий Данелия — 70 лет.
19.30 Дежурная часть.
19.50 «История любви».
22.05 Футбол. Суперкубок УЕФА. «Реал» (Мадрид) — «Галатасарай».
0.20 Лучшие моменты чемпионата Европы по футболу-2000.

**«МОГИЛЕВ-1» на БТ**

14.25 «Откровенно...»
14.45 Мультфильм.

## СУББОТА, 26 августа

**БТ**

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.05 Сущность.
8.30 Усадьба.
9.00 Новости.
9.10 Потребительская корзина.
9.25 «Сегодня с вами...»
9.55 «Индаба».
10.20 «Все нормально, мама!»
10.50 «Одиссея команды Кухто».
11.20 Компьютерный полигон.
11.40 Вершина мира.
12.05 Книгосбор.
12.35 Око.
13.00 «На гребне волны».
13.45 Личности XX века. Док. фильм. «Сокровенные люди».
14.00 МСН.
14.15 Сделано в Беларуси.
14.30 Познай себя.
15.00 Новости.
15.15 «Все мы родом из детства».
16.10 Олимп.
16.40 Худ. фильм. «Непобедимые драконы».
18.00 Песню берите с собой.
19.00 Новости.
19.20 КВН. Высшая лига. «День шахтера».
20.45 Премьера песни.
21.00 Панорама.
21.50 «Христофор».
22.10 Драма. «Взбесившийся автобус».
23.55 Видимо-невидимо.

**ОРТ**

7.00, 9.00, 14.00, 17.00 Новости.
7.10 Слово пастыря.
7.25 «Все путешествия команды Кусто».
8.20 Играй, гармонь любимая!
8.50 «Ералаш».
9.10 Смак.
9.30 Док. детектив. «Засада на золотой тропе».
10.00 «С легким паром!»
10.35 Утренняя почта.
11.05 Худ. фильм «Последняя жертва».
12.55 В мире животных.
13.40 История одного шедевра.
14.10 «Горец».
15.00 Седьмое чувство.
15.35 Худ. фильм «Мировой парень».
17.15 «Ералаш».
17.30 Фильм «Знахарь».
20.00 Время.
20.45 Комедия «Посмотри, кто говорит».
22.35 Худ. фильм «Прощание с королем».

**РТР**

7.00 Мультфильмы.
7.15 Комедия «В погоне за миллионом».
9.00 Доброе утро, страна.
9.50 «Сто к одному».
10.35 Сам себе режиссер.
11.05 «Друзья-II».
11.35 Золотой ключ.
11.55 «Звезды цирка-2000».
13.00, 19.00 Вести.
13.25 Комедия «Орел и решка».
15.00 «Вечера в Политехническом».
16.00 «Пресс-клуб».
17.00 Моя семья.
18.00 «Два рояля».
19.30 «Городок».
20.10 «Аншлаг» и К°.
21.15 Боевик «Воздушный охотник».
23.05 Триллер «Шпанская мушка».
0.45 Автогонки «Формула-1».

## ВОСКРЕСЕНЬЕ, 27 августа

**БТ**

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Мультсериал.
8.30 Здоровье.
9.00, 15.00 Новости.
9.10 Потребительская корзина.
9.25 «Сегодня с вами...»
9.55 «Индаба».
10.20 Туробъектив.
10.45 «Все нормально, мама!»
11.15 «Премьер-парад».
11.45 Арсенал.
12.10 «На волне взаимопонимания».
13.00 «На гребне волны».
13.45 Зорная ростань.
14.15 МСН.
14.30 Сельчане.
15.10 Белорусский дом.
15.40 Док. фильм. «Автопортреты». «Михаил Савицкий».
16.05 Теленавигатор.
16.25 Банка комиксов.
16.55 Футбол. «Торпедо-МАЗ» (Минск) — «Гомель». В перерыве (17.45) — Мультфильм.
19.00 «Судьба человека».
19.30 Стадион.
20.00 Резонанс.
20.55 Ток-шоу «Карамболь».
21.30 Мелодрама «Верность».
23.00 Суперобраз XXI века.
23.30 Столичный хит.
0.10 Авто-парк.

**ОРТ**

7.00, 9.00, 14.00, 17.00 Новости.
7.10 Служу России!
7.40 «Дисней-клуб». «Аладдин».
8.10 Утренняя звезда.
9.10 «Непутевые заметки».
9.30 Пока все дома.
10.05 «Альф».
10.35 Здоровье.
11.05 Худ. фильм «Повторная свадьба».
12.45 Школа снайперов «К-43».
13.15 Клуб путешественников.
14.10 «Горец».
15.05 Возможно все!
15.20 «Дисней-клуб».
16.15 «Серебряный шар».
17.15 Смехопанорама.
17.45 «Ералаш».
18.00 Худ. фильм «Холодное лето пятьдесят третьего».
20.00 Время.
21.00 Худ. фильм «Бездна».
23.30 Время футбола.
0.10 Комедия «Дамский парикмахер».

**РТР**

7.00 «Устами младенца».
7.30 Мультфильм.
7.50 Папа, мама, я — спортивная семья.
8.50 Доброе утро, страна.
9.30 «Аншлаг» и К°.
10.30 «Городок».
11.00 Русское лото.
11.40 Фильм-сказка «Бал сказок».
13.00, 19.00 Вести.
13.20 Диалоги о животных.
14.05 Планета Земля.
14.55 Автогонки «Формула-1».
17.05 Детектив «Черный принц».
19.35 Комедия «Триста лет спустя».
21.25 «Посвящение».
23.05 Мелодрама «Ретро втроем».
0.45 «Футбол + ТВ».

# ЗА ПАДРУЧНІКІ ТРЭБА ПЛАЦІЦЬ

На зыходзе лета. Зусім мала часу застаецца да таго дня, калі 1 верасня празвініць школьны званок. Кожнаму вучню спатрэбяцца падручнікі. Сёлета, як і раней, таксама бацькам давядзецца ўносіць плату за карыстанне імі. Складае яна ўсяго толькі 25 працэнтаў ад поўнага кошту камплекта-падручнікаў.

13 мая г.г. Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову "Аб парадку збірання платы за карыстанне вучнямі падручнікамі". У ёй зазначана, што ў 2000-2001 навучальным годзе плата за карыстанне вучнямі падручнікамі бярэцца з бацькоў або асоб, што іх замяняюць, дзеці якіх вучацца: у агульнаадукацыйных школах; у школах – дзіцячых садах; у агульнаадукацыйных школах-інтэрнатах, у гімназіях, ліцэях, комплексах, створаных на базе агульнаадукацыйных школ; у вучылішчах алімпійскага рэзерву; у рэальных класах цэнтраў прафесійнай падрыхтоўкі; у вячэрніх агульнаадукацыйных школах.

Існуюць таксама льготы для пэўных катэгорый школьнікаў. Плата за падручнікі не бярэцца з бацькоў або асоб, іх замяняючых, дзеці якіх вучацца ў спецыяльных агульнаадукацыйных школах-інтэрнатах, класах для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця ў агульнаадукацыйных школах; у спецшколах для дзяцей, якія маюць патрэбу ў асаблівых умовах выхавання, у агульнаадукацыйных санаторных школах-інтэрнатах; з бацькоў, якія маюць дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, якія вучацца ў інтэграваных класах; з сем'яў, сукупны даход якіх на члена сям'і ў месяц за 1999 год не перавышаў 50 працэнтаў сярэднедушавога спажывецкага бюджэту сям'і з 4-х чалавек, зацверджанага ў цэнах

## *Напярэдадні навучальнага года*

верасня 1999 года; з сем'яў, у якіх адзін або абодва бацькі інваліды; з сем'яў, у якіх дзіця-інвалід вучыцца дома і г.д.

Плата за карыстанне падручнікамі зніжаецца на 50 працэнтаў для сем'яў, у якіх выхоўваецца трое і больш дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту.

Падручнікі выдаюцца толькі пры ўмове здачы поўнага камплекта атрыманых раней падручнікаў за мінулы навучальны год і прадастаўлення квітанцыі аб аплаце за карыстанне імі ў наступным навучальным годзе.

У выпадку пераходу вучня ў іншую школу камплект атрыманых падручнікаў належыць вярнуць ў бібліятэчны фонд школы. Пры гэтым выдаецца даведка аб унесенай плаце за карыстанне падручнікамі ў бягучым годзе. На падставе гэтай даведкі вучань атрымлівае адпаведныя падручнікі без аплаты ў другой школе.

У выпадку набыцця бацькамі вучняў асобных падручнікаў за поўны кошт плата ўносіцца толькі за атрыманыя падручнікі ў памеры 25 працэнтаў іх сярэдняга кошту.

Пры неўнясенні платы за карыстанне падручнікамі ў вызначаны тэрмін іх камплект не выдаецца вучню да пагашэння запазычанасці, якая спаганяецца ў парадку, вызначаным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Для школ з беларускай мовай навучання па праграме 12-гадовай адукацыі ў падрыхтоўчым класе аплата складае 663 руб.; 1 клас – 1010 руб., 2 клас – 1080 руб., 3 клас – 1470 руб, у 11-гадовай школе – 3 клас – 740 руб., 4 клас – 875 руб.

Для школ з рускай мовай навучання ў 12-гадовай школе камплект падручнікаў для падрыхтоўчага класа складае 663 руб., 1 клас – 1110 руб., 2 клас – 1210 руб., 3 клас – 1470 руб., у 11-гадовай школе – 3 клас – 836 руб., 4 клас – 875 руб.

Кошт камплектаў падручнікаў для астатніх класаў, незалежна ад мовы навучання, у гэтым годзе складае: 5 клас – 989 руб.,6 клас – 1070 руб., 7 клас – 1400 руб., 8 клас – 1700 руб., 9 клас – 1900 руб., 10 клас – 1880 руб., 11 класс – 1720.

Паважаныя бацькі! Звярніце ўвагу на своечасовае прадастаўленне неабходных даведак (хто вызваляецца ад аплаты) і тэрміновае ўнясенне платы згодна з коштам камплекта падручнікаў. Плата ўносіцца ў мясцовым аддзяленні ААТ "Беларусбанк" на транзітны рахунак інспекцыі дзяржаўнага падаткавага камітэта Рэспублікі Беларусь.

**Валянціна МІРАНЦОВА,**
**метадыст аддзела адукацыі райвыканкама.**



## *Поздравляем!*

*Горячо и сердечно поздравляем с днем рождения дорогую, любимую мамочку, бабушку*
***МЕШКОВУ***
***Марию Васильевну***
*(пос. Муравилье)*
*Пусть в этот день засветит ярче солнце*
*И радость жизни пусть закроет тьму,*
*И пусть здоровье будет лучшим из подарков,*
*А всё хорошее приложится к нему.*
*Хочется тебе в этот день пожелать:*
*Не болеть, не грустить, не скучать*
*И еще много раз дни рожденья встречать.*
***Дочь, сын, внуки.***

**Х Х Х**

*Сердечно поздравляем с днем рождения*
***ГАСИЛОВУ***
***Татьяну Александровну***
*Сегодня праздник у тебя,*
*Сегодня день рожденья.*
*Желаем мы тебе добра,*
*Здоровья и веселья.*
*Пусть этот день, как сувенир,*
*Тебе подарит вечный мир.*
*Пусть в этот день веселье льётся,*
*Пусть для тебя весна смеётся,*
*Пусть сбудутся твои мечты,*
*Пусть будет так, как хочешь ты.*
***Муж, дочь Эльмира, мать, отец, сестра, зять.***

## К сведению учащихся 10-х классов!

**Дорогие ребята и родители!**

Районный отдел образования доводит до вашего сведения, что в 2000-2001 учебном году в **СШ № 3 и СШ № 4 г. Костюковичи** открываются лицейские классы по следующим профилям:

**СШ № 3 – химико-математический профиль.** На этом профиле на повышенном уровне будут изучаться следующие предметы: математика, информатика, биология, физика, химия;

**СШ № 4 – филологический профиль.** На повышенном уровне будут изучаться белорусский язык и литература, русский язык и литература, иностранный язык.

Учащиеся, окончившие 9 классов и желающие обучаться в лицейских классах, подают письменное заявление на имя директора школы.

Прием учащихся и зачисление в лицейские классы проводится на конкурсной основе по результатам собеседований и проверочных работ по профилирующим предметам.

**ОТДЕЛ ОБРАЗОВАНИЯ РАЙИСПОЛКОМА.**

## СЛУЖБА 04

# Лічыльнік зберажэ вашы грошы

Цяжка ўявіць зараз жыццё без газа ў кватэры. Гэта стала нормай. Уключыўшы пліту, у любы момант можна прыгатаваць ежу, нагрэць ваду і г.д. І кожны, напэўна, ведае, што за такую зручнасць трэба абавязкова своечасова разлічвацца. Аднак многія жыхары нашага раёна забыліся пра гэта. З месяца ў месяц расце спіс даўжнікоў, а ў некаторых павялічваецца лічба доўгу.

Зараз у раёне газазабеспячэння налічваецца амаль сотня спажыўцоў, якія забываюць на працягу некалькіх месяцаў разлічваца за паслугі. У некаторых доўг складае па 4, 5, 7 тысяч рублёў. Напрыклад, В. Бардонаў з Шарэек запазычыў 3180 рублёў, Е. Рудая з гэтага ж пасёлка – 3686, а В. Падабед –2991 рубель. У З. Бяляцкай з Муравілля сума доўгу пераваліла за 7 тысяч, у В. Ермакова падбіраецца да 6 тысяч рублёў.

У вёсцы Сялецкае ў спісу даўжнікоў больш дзесятку чалавек. Сярод іх А. Шкробаў, М. Ларчанка, І. Крамар, В. Маскаленка.

Калі ў вёсках многія спасылаюцца на несвоечасовую выплату зарплаты, то што перашкаджае гараджанам своечасова разлічвацца за газ? А тым не менш у спісу на працягу многіх месяцаў значацца Н. Бірукова, В. Рагулёў, Л.Багачова, Т. Валодчанка, М. Таўпека і іншыя.

Вядома, пералічыць усіх, хто забыўся разлічыцца за паслугі газавай службы, проста немагчыма. Гэта доўгі спіс. Хачу запэўніць усіх, што сумы даўгоў былі б значна меншымі, каб абаненты ўладкавалі ў кватэрах лічыльнікі газу. Справа ў тым, што пры выкарыстанні газу без лічыльнікаў з пачатку 2001 года аплата будзе налічвацца па магутнасці газавых прыбораў. Так, на першае жніўня гэта складае 676 рублёў на чалавека за выкарыстанне прыроднага і 634 – звадкаванага газу. Гэта калі ў кватэры ёсць толькі пліта. А калі ў вас у кватэры ўсталяваны яшчэ і газавы воданагравальнік, то на аднаго пражываючага ў кватэры трэба будзе заплаціць 1979 і 1667 адпаведна за спажыванне прыроднага і звадкаванага газа.

І калі вас напалохалі гэтыя лічбы, то паспяшайцеся ў раён газазабеспячэння, каб тэрмінова ўстанавіць газавы лічыльнік, тады лічбы плацяжоў будуць значна ніжэйшыя. Дарэчы, устанавіць лічыльнік трэба да 1 снежня 2000 года. Маламаёмасныя жыхары, якія прыватызавалі кватэры, могуць устанавіць газавы лічыльнік за кошт дзяржаўных сродкаў. Для гэтага трэба звярнуцца ў аддзел сацыяльнага забеспячэння або сельскі Савет па месцы жыхарства, дзе вам выдадуць адпаведныя даведкі, або ўключаць у спіс ільготнікаў. А ўлічваючы тое, што пражытачны мінімум складае ў сярэднім каля 25 тысяч рублёў, то многія жыхары раёна могуць быць уключаны ў спісы на бясплатную ўстаноўку лічыльніка газа.

**Уладзіслаў БЕЛЕЗЯКОЎ,**
**інжынер газазабеспячэння.**



## *ПОЗДРАВЛЯЕМ!*

*От всей души поздравляем с 60-летием со дня рождения дорогую, любимую мамочку, бабушку*
***ЧИЖ***
***Зинаиду Михайловну.***
*Милая, родная, как тебя мы любим,*
*Руки твои нежные, добрые глаза.*
*С нежностью сегодня мы целуем,*
*Ведь любовь словами выразить нельзя.*
*Мы ведь понимаем – всякое бывает,*
*Ссоры и обиды, разные слова,*
*Но любовь ведь это всё же побеждает*
*И, конечно, мамочка, ты всегда права.*
*Время нашей жизни календарь листает –*
*Снова за закатом следует рассвет,*
*Пусть же этот праздник вновь тебе прибавит*
*Много добрых, милых и счастливых лет.*
***Дети, внуки.***

## *Благодарны*

Большое горе постигло нашу семью – ушел из жизни любимый муж, отец, дедушка. В тяжелые минуты утраты рядом с нами были сердечные, добрые люди. Сегодня слова благодарности мы выражаем председателю райисполкома М. Г. Борисову, работникам РИК, директору районного центра занятости населения Н. М. Сидоренко, начальнику управления инвестиции и капитального строительства райисполкома В. С. Дударуку, инженеру этого управления И. В. Юрша, председателю колхоза "Родина" А. М. Кравченко, главному врачу района В. В. Шведу, директору унитарного коммунального предприятия "Водоканал" П. Т. Барыкину, коллективу этого предприятия, всем руководителям, коллективам предприятий и организаций, которые приняли участие в похоронах **ШУНЬКИНА Федора Максимовича.**

**Семья ШУНЬКИНЫХ.**



**Калектыў раённага аддзела аб'яднання "Ахова" пры МУС Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне КАЗАКОВАЙ Надзеі Васільеўне з выпадку напаткаўшага гора – смерці МАЦІ.**

**Сем'і Бондарава і Лукашэнкі выказваюць глыбокае спачуванне ДЗЕНІСЕНКУ Васілю Андрэевічу з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора – смерці ЖОНКІ.**

**Сем'і Чарных, Стэцкіх, Аксянковых выказваюць глыбокае спачуванне КАЗАКОВАЙ Надзеі Васільеўне з выпадку напаткаўшага гора – смерці МАЦІ.**

**Калектыў Шарэйкаўскай сярэдняй школы, вучні 9 класа выказваюць глыбокае спачуванне ТАМАШОВАЙ Кацярыне з выпадку напаткаўшага гора – смерці БАЦЬКІ.**




**Галоўны рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ**

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

*ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ*

*АДРАС РЭДАКЦЫІ:*
*213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43*
*Індэкс газеты 64045*

*ТЭЛЕФОНЫ:*
*галоўны рэдактар -- 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар -- 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі -- 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя --2-23-55.*

*Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.*
**Газета выходзіць у сераду і суботу.**

*Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш*
*Тыраж 1514 экземпляраў*
*Друк афсетны*
*Падпісана ў друк 18. 08. 2000 г. 18.00*
*Заказ № 64*

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.**

**Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.**

**Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.**